# "...Затое сумленне чыстае"

*Ураджэнца Мядзельшчыны Г. С. Таразевіча добра ведаюць не толькі ў нашай краіне. Пералік пасад, якія займаў Георгій Станіслававіч, вельмі салідны: Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі, кіраўнік Камісіі па міжнацыянальных адносінах Вярхоўнага Савета СССР, намеснік Міністра замежных спраў рэспублікі, пасол Беларусі ў Польшчы. І так ужо атрымалася, што ён у рэшце рэшт аказаўся ў апале. Таразевіч вырашыў вярнуцца ў вялікую палітыку не абіваючы парогаў розных прыёмных, а найбольш цяжкім, аднак адзіна дастойным шляхам — праз давер народа, вылучыўшыся кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі па Мядзельскай выбарчай акрузе №201. А сёння Георгій Станіслававіч адказвае на пытанні нашага карэспандэнта.*

**— Перш за ўсё, Георгій Станіслававіч, хацелася б пачуць, з якой мэтай вырашылі вылучыцца кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета. На жыццё ў вас, па ўсёй бачнасці, павінна і без гэтага хапаць!**

— Сапраўды, нам з жонкай, якая цяпер на пенсіі, хапае. Два сыны ўжо дарослыя, атрымалі някепскую адукацыю, працуюць, маюць уласныя сем'і. Да таго ж, з маімі ведамі, вопытам, не складае аніякіх цяжкасцяў уладкавацца пры неабходнасці на спакойную і высокааплачваемую работу. Не сакрэт і тое, што палітыка для адных — гэта ўлада, магчымасць нажыцца, для другіх, сумленных людзей, — барацьба за справядлівасць, росквіт роднай краіны.

Ведаеце, мне асабіста крыўдна за нашу Беларусь. Яшчэ нядаўна яна была адносна багатай рэспублікай. А зараз усё добрае неяк непрыкметна паразгублялі, людзям стала вельмі цяжка жыць, у грамадстве прагрэсіруюць беспрацоўе і злачыннасць. Няма стабільнасці ў рабоце ні заводаў, ні калгасаў, перспектывы ў нас цьмяныя. Па майму глыбокаму перакананню, беларусы, як таленавіты і працалюбівы народ, маюць права на лепшы лёс, лепшае жыццё. Менавіта за гэта і вырашыў пазмагацца ўсур'ёз.

**— Найвялікшы агульнанацыянальны боль Беларусі — Чарнобыльская трагедыя. Калі яна здарылася, вы якраз кіравалі рэспублікай, займалі пост Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета. Не-не, ды і даводзілася чуць, што ў чорныя красавіцкія дні восемдзесят шостага вы таксама не казалі людзям праўды, не паклапаціліся аб аператыўнай эвакуацыі з небяспечных раёнаў. Наколькі аб'ектыўныя падобныя абвінавачванні з вашага пункту гледжання!**

Яны беспадстаўныя, бо нават я ў тыя дні, як гэта не гучыць парадаксальна, не ведаў праўды. На другі дзень пасля выбуху, 27 красавіка, лятаў у Гомель на сесію абласнога Савета. Разам са мной быў і намеснік камандуючага Беларускай ваеннай акругі. Нас сустрэлі першы сакратар абкома партыі Камай, супрацоўнікі мясцовых КДБ і міліцыі. І ніхто аб трагедыі не сказаў ні слова. Пасля сесіі знаёміўся з горадам, дзень быў сонечны...

Калі адляталі з Гомеля, нас праводзілі тыя ж асобы. Не ўпэўнены, што нехта з іх ведаў тады аб выбуху. А калі ведаў, то няхай сабе са спазненнем, але з гэтым трэба разабрацца. Упершыню ж інфармацыю аб небяспецы ў рэспубліцы, якую Масква ад нас утойвала па той прычыне, што аварыя адбылася на тэрыторыі Украіны і лічылася, што гэта яе ўнутраная справа, атрымаў ад Слюнькова 1 мая, у другой палавіне дня. Так што наконт першага перыяду гэтай катастрофы, маё сумленне, як гаворыцца, перад людзьмі і богам чыстае.

**— Георгій Станіслававіч, працуючы паслом у Польшчы, вы мелі магчымасць назіраць за грамадскімі працэсамі ў Беларусі як бы на адлегласці, калі ўсё бачыцца і адчуваецца больш рэалістычна. Што пры гэтым вам не падабалася, мабыць, абурала!**

— Найбольш тое, як бессаромна раскрадаюць багацце краіны, абдзіраюць народ. Не паддаецца ніякай логіцы, але факт: Польшча набывае нашы калійныя ўгнаенні не ў рэспубліцы, а пры пасрэдніцтве аўстрыйскай фірмы. Хімічныя валокны паступаюць у суседнюю краіну праз.... Германію. Нехта заграбае на таварах Беларусі многія мільёны долараў, а ўрад не можа прыдумаць нічога лепшага, як абкладаць прамысловасць і сельскую гаспадарку непамернымі ўсемагчымымі падаткамі, каб хоць неяк папоўніць бюджэт.

Альбо ўспомніць, як урад Кебіча заганяў у Расію па бартэру за бесцань прадукцыю "Гарызонта". На кожным (!) тэлевізары рэспубліка губляла не адзін дзесятак долараў, адно з вядучых аб'яднанняў краіны несла вялізныя страты. Такія, што невядома, ці ўдасца яму хаця б у будучым стаць на ногі, працаваць стабільна, з прыбыткамі.

А што робіцца ўнутры рэспублікі. Цягнуць грамадскае дабро хто сабе, будуюць замкі, адкрываюць камерцыйныя банкі і канторы... Не паспееш азірнуцца — полк мільянераў пашырыўся. Толькі лік у іх вядзецца не на рублі, а на долары. У той жа час народ бяднее і бяднее. Бо яго рабуюць усе, каму не лянота. З экрана тэлевізара неаднаразова гучалі запэўніванні, што прайдзісветы і злодзеі вось-вось будуць пастаўлены на месца. Такія абяцанкі гучаць ужо даўно, але пакуль не чуў, каб хтосьці атрымаў па заслугах.

**— Не магу, Георгій Станіслававіч, не задаць пытання і наконт вашага бачання будучага Беларусі, перспектывы яго развіцця.**

— Мы і жывём дзеля таго, каб дзень заўтрашні быў лепшым. На жаль, забяспечыць сёння невялікі прагрэс у развіцці краіны практычна немагчыма, бо эканоміка Беларусі ў глыбокім крызісе. Аднак мы не маем аніякага права губляць надзеі на лепшае. Прычым важна зразумець, што пабудаваць светлае жыццё зможам толькі ўласнымі рукамі. Калі нехта спадзяецца, што гэтым зоймуцца Захад альбо Масква, то ён моцна памыляецца і яго чакае горкае расчараванне. Вось чаму трэба неадкладна па-сапраўднаму брацца за справу, наводзіць у краіне належны парадак. Канешне, гэта станаўленне ў многім будзе залежыць ад новага саставу Вярхоўнага Савета, ад таго, хто ў яго трапіць. Вось чаму вельмі важна ўсім людзям не толькі прыйсці ў наступную сераду на выбарчыя ўчасткі, але і аддаць галасы за дастойнага кандыдата, які іх не ашукае, не забудзе праз лічаныя месяцы аб сваіх абяцаннях выбаршчыкам.

**— А што вы, Георгій Станіслававіч, абяцаеце людзям пры сустрэчах, у гутарках!**

— Я прывык казаць людзям праўду, тое, што думаю. За гэта меў у жыцці нямала непрыемнасцяў. І з апошняй маёй пасады пасла Беларусі ў Польшчы вызвалілі "у сувязі з пераходам на іншую работу". Толькі вось якая гэтая работа, нават сам не ведаю і па сённяшні дзень, лічуся ў рэзерве Міністэрства замежных спраў рэспублікі, хаця на пенсію мне яшчэ не пара. З аднага боку, апынацца ў такой сітуацыі непажадана, а з другога — сумленне перад людзьмі чыстае, што на мой погляд, больш важна.

Таму пры сустрэчах з выбаршчыкамі не абяцаю, што заўтра яны змогуць набываць у магазінах больш танныя тавары, своечасова атрымаюць зарплату, усе вяскоўцы будуць ездзіць па заасфальтаваных дарогах... Затое гарантую, што рашуча і прынцыпова буду абараняць іх інтарэсы і, як дэпутат Вярхоўнага Савета, настойліва і мэтанакіравана працаваць над паступовым вырашэннем існуючых у грамадстве вострых сацыяльных праблем. А пры такім падыходзе і жыццё наша пацІху пойдзе на лад.

***Гутарыў Янка ВАСІЛЕЎСКІ***

# Расклад руху

## электрычак і прыгарадных цягнікоў па ст. Маладзечна, уведзены з 8.11.1995 года

| | |
|---|---|
| **Маладз. — (адпр.)** | **Мінск (прыб.)** |
| 4-31 | 6-21 |
| 5-27 | 7-17 |
| 6-29 | 8-19 |
| 7-44 | 9-34 |
| 8-27 | 10-10 |
| 8-48 | 10-38 |
| 9-52 | 11-42 |
| 10-39 | 12-31 |
| 12-35 | 14-12 (птн., вых.) |
| 13-02 | 14-52 |
| 13-38 | 15-30 |
| 14-31 | 16-22 |
| 15-28 | 17-18 |
| 15-55 | 17-39 (вых.) |
| 16-27 | 18-[illegible] |
| 17-20 | 19-01 |
| 17-50 | 19-40 |
| 18-29 | 20-18 |
| 19-18 | 21-04 |
| 19-52 | 21-40 |
| 20-40 | 22-30 |
| 21-21 | 23-10 |
| 22-13 | 23-57 |
| **Мінск — (адпр.)** | **Маладз. (прыб.)** |
| 4-28 | 6-05 |
| 5-27 | 7-05 |
| 6-22 | 8-04 |
| 6-40 | 8-17 |
| 7-34 | 9-30 |
| 8-18 | 10-05 |
| 8-58 | 10-47 |
| 9-53 | 11-42 |
| 10-58 | 12-56 |
| 12-00 | 13-50 |
| 12-53 | 14-42 |
| 13-37 | 15-28 |
| 14-04 | 15-40 (вых.) |
| 15-02 | 16-42 (птн., вых.) |
| 15-40 | 17-30 |
| 16-14 | 18-05 |
| 16-54 | 18-55 |
| 17-40 | 19-30 |
| 18-32 | 20-22 |
| 19-16 | 20-04 |
| 20-11 | 21-58 |
| 21-05 | 22-54 |
| 22-16 | 0-05 |
| **Маладзечна – Крулеўшчына** | |
| 7-18 | 9-37 (вых.) |
| 8-34 | 13-13 (да Пол.) |
| 12-42 | 15-00 (вых.) |
| 20-38 | 23-08 |
| **Маладзечна – Ліда** | |
| 7-40 | 9-10 (да Бгд., вых.) |
| 8-45 | 11-52 |
| 12-40 | 15-46 (вых.) |
| 17-58 | 21-17 |
| 20-43 | 23-50 |
| **Крулеўшчына – Маладзечна** | |
| 4-35 | 6-55 |
| 9-58 | 12-19 (вых.) |
| 15-22 | 17-44 (вых.) |
| 14-40 | 19-46 |
| **Ліда – Маладзечна** | |
| 3-48 | 7-06 |
| 9-31 | 11-07 (з Бгд., вых.) |
| 8-20 | 12-13 |
| 11-58 | 15-15(вых.) |
| 16-01 | 19-20 |

# Маладзечанскія "прыгоды" пенсіянера са Смаргоні

16.11.95 г. Вячэрняя цемра ахінула горад. Паміж тых, хто спяшаўся на цягнік, дваццацігадовы Івашэнка швэндаўся без пэўнай справы. Да яго падышоў падлетак.

—Ігар, пра цябе Светка пыталася.

— Што ёй трэба?

—Не ведаю. Яна нейдзе тут. Пашукаем?— Прапанаваў Дзіма.

Света, Вольга і Наташа, з якой былі дзеці, аб нечым жвава гутарылі ля ларка з чабурэкамі.

— Чаму на госці не заходзіш?— сустрэла пытаннем Ігара дзяўчына.

—Дык няма з чым. Грошай няма.

А выпіць гарэлкі вельмі хацелася. Нават семікласніку Дзіме, якому заўтра трэба было ў школу.— Шукайце спонсара,— прапанаваў Івашэнка.

— Быў такі тут, але палічыў, што кампанія велікаватая для яго кішэні,— паведамілі дзяўчаты.— Паспяшаўся дамой у Смаргонь.

Нестары яшчэ пенсіянер ужо сеў на гудагайскі цягнік, калі юныя дамы адумаліся.

— Такога "спонсара" нельга ўпусціць...

"Знялі" з цягніка. Даручылі Вользе "раскруціць" мужыка на пляшку гарэлкі. Непаўналетняя спадабалася былому афіцэру, ўгаварыла яго і павяла да сябе дамоў. Быццам не па-дамоўленасці на вуліцу Лібава-Роменскую пазней прыйшла і ўся астатняя кампанія.

Так не пойдзе. Вас вельмі шмат,— спачатку абурыўся госць.— Але... калі прыйшлі...

Выпілі. Раззнаёміліся. "Раскруцілі" мужыка яшчэ на самагон. Пачалі разыходзіцца. Але пенсіянер дадому не спяшаўся, меў намер застацца адзін на адзін з Вольгай. Прыйшлося выштурхнуць яго з хаты, бо карысці ад яго больш не было.

— У яго яшчэ ёсць грошы. Я бачыла,— паведаміла на вуліцы Вольга Ігару, Свеце і Дзіме.

Але на чарговую пляшку гарэлкі "спонсар" больш не даваў.

Збілі, абабралі і п'янога пакінулі на вуліцы.

Застолле на грошы пенсіянера працягвалася, калі Міхаіл працвярозеў і вярнуўся ў вольгіну хату.

— Праходзь, калі прыйшоў,— не пярэчыў Ігар.— Дзяўчаты, пачастуйце яго. Зноў пілі. Міхаіл пачаў хваліцца, што па маладосці быў добры спартсмен. Ведае каратэ. У падпітку дэманстраваў свае кулакі: біў імі па сцяне.

Надакучлівага каратыста кампанія юнакоў вырашыла правесці да вакзала. Той, упарты, супраціўляўся. У холадзе лістападаўскай начы яго распранулі. Білі добра. Нагамі. Асабліва старалася Святлана. У нецвярозай дзяўчыны праснулася прага да бойкі.

— Занадта ты крутая, Светка,— спрабавалі яе спыніць сябры.

— А-а-а... Мне ўсё адно сядзець...

Патрульная затрымала ўсіх на месцы здарэння. Старшы следчы Маладзечанскага ГРАУС Анатоль Гарабец, які вядзе гэту крымінальную справу, паведамляе, што Ігара, Дзіму, Свету і Вольгу чакае суд. Па артыкулу 88 за групавы грабеж з ужываннем насілля чакае тэрмін да сямі гадоў пазбаўлення волі.

*Святлана САРОКА*

# Змена статуса – крок наперад

***Новы статус набыў былы Валожынскі льнозавод. Рашэннем Мінскага аблвыканкома ён пераўтвораны ў адкрытае акцыянернае таварыства "Валожынскі льнокамбінат".***

Падставай для гэтага паслужыла прыкметнае расшырэнне ў апошнія гады спектра выпускаемай тут прадукцыі. Акрамя традыцыйнага занятку – вытворчасці льновалакна, тут наладжаны выпуск мяккай мэблі, кастрапліты, вяровак, шпагату, іншых вырабаў з "паўночнага шоўку".

На дзелавое партнёрства з гэтым прадпрыемствам згадзілася адна з бельгійскіх фірмаў. План супрацоўніцтва прадугледжвае ўстаноўку лініі для часання доўгальну. Першапачатковы ўзнос замежных партнёраў у развіццё Валожынскага льнокамбіната склаў 200 тысяч амерыканскіх долараў. Сумесны праект стане новай прыступкай у павышэнні аўтарытэту і прызнання мясцовых льноперапрацоўшчыкаў.

Хутка спраўдзяцца надзеі некаторых аматараў піва паласавацца нарэшце льнокамбінатаўскім напіткам з ячменнага соладу. Піваварная вытворчасць дасць магчымасць прадпрыемству прыкметна папоўніць сваю казну. Тут разлічваюць выпусціць у суткі каля трох тон пеністай ячменнай прадукцыі. А напоўніць куфлі жаданым пітвом змогуць аматары піва акурат напярэдадні Новага года.

*Ірына ПАШКЕВІЧ*

# Тэлестудыя "Аліна" прадстаўляе...

***Трэці год працуе ў Радашковічах сетка кабельнага тэлебачання. Яна ахоплівае больш за пяцьсот кватэр новага мікрараёна. На чатырох каналах транслiраваліся праграмы спадарожнікавага тэлебачання і зрэдзьчасу відэазапісы мясцовых навінаў.***

І вось вечарам 16 лістапада песняй "Сёння ў нашай хаце свята" у выкананні вучняў мясцовай сярэдняй школы пачата работа аматарскай тэлестудыі "Аліна". Першай перадачай стаў прамы эфір сустрэчы з кандыдатамі ў дэпутаты Радашковіцкага пасялковага Савета.

Добра справіўся з роллю вядучага кіраўнік фірмы "Аліна" Г.Пустаход, дакладна працаваў аператар Рудакоў. Прэм'ера была ўдалай.

*Мікола ЛІННІК.*





